# ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА

◆ ◆ ◆

**Максім Танк**

## ЗОРЫ НАД НАШАЙ ЗАПАЛІЎ ЗЯМЛЁЙ

Выходзьце на разлогі ў поле,
Дзе ветрам гнула лебяду,
Там расцвітае наша доля—
Байцы чырвоныя ідуць.

І мігам апусцелі хаты.
І на сталёвыя палкі
Глядзелі маткі і дзяўчаты
З-пад хустак алых, з-пад рукі.

Калі-ж прышлі да хат сірочых
З астрогаў хлопцы і сыны,—
Упершыню ад шчасця вочы
Успыхнулі зарой вясны.

З падзякай шчырай і зарукай
Вялікай дружбы векавой
Сялянак змучаныя рукі
Спаткаліся з байца рукой.

І калі ціхім лістападам
Змрок асыпаўся на сяло,
Дзве песні хвалявалі радасць,
Звінелі пералівам слоў.

Адну спяваў танкіст вясёлы,
Пра мудрага правадыра,
Спяваў другую ясны голас,
Ці можа новая зара:

— Гасці, сынок, каб болей гора
І слёз не ведалі з тугой,
Вялікі Сталін шчасця зоры
Над нашай запаліў зямлёй.

**Пімен Панчанка**

## ДАСПЯВАННЕ

Закончан сход. Яшчэ трывожыць слых
Апошняга прамоўцы гучны выраз,
А перад намі сад вячэрні вырас,
Дзве зоркі сыплюцца з каштанаў маладых.

Узбуджаны гарачынёю спрэчак,
Я да лагоднай цішыні ледзь звык.
А ты сказала мне: „Глядзі, як маладзік
Нырнуў у лісце роснае парэчак".

Я глянуў—і ўражаны замоўк:
Нікчэмнасць дробязей мне зразумелай стала—
Зямля тамілася, а ноч над ёй спявала.
Я слухаў музыку—наслухацца не мог.

І ўпершыню адчуў я хваляванне,
Калі сустрэў дапытлівы твой погляд.
Ад смагі раптам вусны перасохлі...
А вішні трызнілі ў таемным даспяванні.

## ЖАБРАКІ

Гэта страшная праўда, не сон—
Ля касцёла сядзяць жабракі.
Скупа сыпле журботны звон
На далоні калек медзякі.

Тут ідуць пешаходы шпарчэй,
Каб не бачыць гаротніцкіх слёз.
Пазірае з галодных вачэй
Майго дзеда пахованы лёс.

Вось пяе аднаногі жаўнер,
Пасінелы ад сцюжы, худы.
А калісьці пад шэлестам верб
Быў ён дужым і маладым.

Дзе-ж паны, што кляліся дарамі
Тваю боль пагасіць, чалавек?
За якімі марамі, гарамі,
Насягнуць іх праклёны калек?

Мне не будзе спакойна спацца,
Я не выпушчу стрэльбу з рукі,
Пакуль ёсць паны ў палацах.
Пакуль ёсць на зямлі жабракі.

## НАРОДНЫ БАГАТЫР

(Казка)

Жыў у адной краіне малады багатыр. Паходзіў ён не з царскага роду, а з простага народу. Былі ў яго сябры-таварышы, была і дзяўчына каханая. Горача кахаў ён сваю красуню. Даў клятву ёй, што ніколі не здрадзіць.

Каля той вёскі, дзе жыў багатыр, пасяліўся пан-сабака. Не просты-яснавяльможны. Ён пра тое каханне даведаўся і надумаў адабраць у багатыра дзяўчыну.

Аднойчы на краіну наляцела бура, пачала размятаць гарады і сёлы. Багатыр супроць гэтай навальніцы змагаўся, але перамагчы яе не змог. Хутка сабраўшыся, пайшоў з сябрамі ў далёкую дарогу. Неўзабаве навальніцай параскідала сяброў яго па лясах і долах. Багатыр адзін з красуняй астаўся. У гэты час навальніца скалу разбіла і багатыра камнямі на зямлю паваліла.

Не змагла дзяўчына дапамагчы яму і пайшла шукаць хто-б мог вызваліць яе сябра з бяды.

Пан тымчасам сачыў за ёю. Лісліва прапанаваў ён ёй сваю дапамогу. Навальніца сціхла. Узяў яснавяльможны пан-сабака багатыра і дзяўчыну ў палац. Ёй сказаў, што багатыра вылечыць, а замест лячэння кінуў яго ў сутарэнне.

Стаў пан пра каханне гаварыць дзяўчыне, але яна кахаць яго адмовілася.

А тымчасам багатыр народны ляжаў у сутарэнні. Думаў ён пра сяброў сваіх верных, бедаваў пра каханую.

Але сябры, залячыўшы свае раны, сталі сілы рыхтаваць, каб выручыць сябра з няволі.

Калі жыў яшчэ багатыр на волі, было ў яго шмат галубоў. Адзін голуб нават з рук у яго еў. Той голуб шукаў па ўсім свеце багатыра і адшукаў яго ў сутарэнні.

Прыляцеў ён к панскаму палацу, пачаў стукаць сваёй дзюбай у акенца. Багатыр пазнаў голуба. Выбіў шкло ў акенцы і ўпусціў яго да сябе ў сутарэнне. Голуб пачаў варкаваць яму песню аб вольнай волі і шчасці.

Адарваў багатыр істужку ад сарочкі, напісаў сваёй крывёй запіску сябрам сваім верным. Прывязаў тую запіску голубу на лапку і загадаў яму ляцець на ўсход сонца.

Атрымаўшы вестачку ад сябра, паслалі голуба з адказам:— чакай нас, багатыр народны, мы цябе вызвалім са злой няволі панскай.

Прыляцеў голуб назад і расказаў, што бачыў на ўсходзе:

— У сяброў тваіх вялікая сіла. У іх па небу лётаюць сталёвыя птушкі. На палях сталёвыя коні табунамі ходзяць, па морах плывуць караблі, усе вадзіцелі ў іх сталёвыя людзі. І правадыром у іх вялікі, мудры Сталін.

Багатыр, атрымаўшы радасную вестку, пачаў ламаць знізу падмурак, каб зруйнаваць панскі палац.

У гэты час зноў узнялася бура. Затрашчаў, пахіліўся панскі церам. На смерць спалохаўся пан-яснавяльможны. Забегаў у палацы, кінуўся да дзяўчыны і схапіў яе за руку, пачаў прасіць дапамагчы выратавацца ад навальніцы. Абяцаў выпусціць багатыра на волю. Адштурхнула дзяўчына пана і хутчэй кінулася сама багатыру на дапамогу.

А багатыр, як толькі наляцела бура, голуба паслаў стралой да братоў, каб ішлі хутчэй на дапамогу. Хутка паляцеў голуб на ўсход. Вестку сваечасова прынёс сябрам.

На сталёвых конях і птушках, з чырвонай зоркай на сваіх высокіх шлемах, лавінай шырокай ішла—лілася армія народа—сяброў.

Зруйнавалі сцены сутарэння і вывелі багатыра на волю. Тут яго сустрэла дзяўчына, што ў палоне была ў пана. Радасна ён абняў яе і сказаў сябрам вялікае дзякуй за сваё вызваленне

Запісаў у казачніка
А. КАРВАЦКАГА
І. ПІКУЛЕЎ

◆ ◆ ◆

**Анатоль Астрэйка**

## МОЙ БРАТ

Схадзіў я ўдоўж і ўпапярок
Наднёманскі і луг і лес.
З начовак піў кляновы сок
І за драздом на дрэва лез.

Меў выган шмат маіх прыкмет:
Я ведаў кожны куст і брод.
Там мой застаўся й сёння след,
Хоць там не быў я дваццаць год.

Мой родны брат,
Мой дружа Глеб,
Успомні час наш малады:
Мы напалам дзялілі хлеб,
Вясну і дождж, і халады.

Ганялі статак у лес вясной,
Плялі кашолкі ля крыніц.
Былі нам лепшаю ядой
Прыгоршчы поўныя суніц.

Збіралі шчаўе мы ў траве,
На дудкі рэзалі чарот.
І ў гнёзды мшыстыя свае
Для нас чмялі насілі мёд.

Мы бульбу ў вогнішчы пяклі,
Лушпайкі дралі кіпцюром,
Палі і лес для нас былі
І хатай, хлебам, і сталом.

Касцёр ніколі ў нас не тух.
Смялей у лесе пры агні.
Адзін палатаны кажух
Нас двух ад сцюжы бараніў.

Калі-ж прызімкам, уначы,
Было нам холад не сцярпець,—
Палілі смольныя карчы,
Каб рукі ззябшыя сагрэць.

Даўно не бачыўся з табой,
Мой родны брат,
Мой дружа Глеб.
Мы разышліся над ракой,
Надвое падзяліўшы хлеб.

З табою без цябе я жыў,
Табе я дружбу брата нёс,
Цябе гукаў я на мяжы
І праклінаў твой горкі лёс.

І я прышоў к табе, мой друг,
Разбіць жалеза цёмных крат.
Упаў навек з цябе ланцуг,
Дай пацалуемся, мой брат.

## ВЕЧАР СОВЕЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

13 студзеня ў гарадскім тэатры адбыўся вялікі вечар совецкай літаратуры. На вечэры з чыткай сваіх твораў выступілі прыехаўшыя ў Беласток рускія, беларускія і яўрэйскія совецкія пісьменнікі.

Працоўныя горада ўпершыню, па сутнасці, мелі магчымасць шырока пазнаёміцца з творчасцю совецкіх паэтаў і празаікаў.

Вечар адкрыў загадчык аддзела агітацыі і прапаганды гаркома КП(б)Б тав. Сенкевіч.

З дакладам аб совецкай літаратуры выступіў беларускі крытык А. Кучар. Тав. Кучар гаварыў аб вялікіх дасягненнях совецкай літаратуры, аб росце культуры ў нашай краіне, аб творчасці паасобных пісьменнікаў.

На вечары выступілі з чыткай сваіх твораў: рускі пісьменнік-ордэнаносец А. Первенцаў — аўтар вядомай кнігі аб народным героі часоў грамадзянскай вайны „Качубей", вядомы рускі паэт Міхаіл Галодны, беларускія паэты: Аркадзь Куляшоў, Анатоль Астрэйка, Пімен Панчанка, яўрэйскія паэты — З. Аксельрод і М. Грубіян.

З вялікім уздымам прайшоў гэты цікавы вечар.

У заключэнне адбыўся канцэрт.

М

## ГОСЦЬ

*(Апавяданне)*

М. БЛІСЦІНАЎ

У Піліпа сёння вясёлы дзень. Такія дні былі рэдкім госцем у яго жыцці. Галава яго ўжо даўно пабялела, а на твары, худым і чорным ад вятроў і гора, жыццё пакінула сотні заблытаных троп.

Ад самага рання Піліп на нагах. Ён мітусіцца, бегае, поўны клопатаў. То забягае ў хату, то ў дзіравы хлявушок, то заверне ў хлеў, дзе стаіць карова і ляжыць пахучая свежая салома. Часам ён спыняецца, асцярожна азіраецца па баках, быццам не даючы веры, што такое шчасце прышло раптам, зусім нечакана. На цыпках падбіраецца крадком к хлеву, прыкладвае вуха к дашчаным варотам і, стаіўшы дыханне, слухае, як самавіта жуе карова сена, як задаволена крукае нявялічкі караткапогі подсвінак. Усмешка асвятляе змучаны твар, усмешка згладжвае маршчыны, усмешка радасці і шчасця.

Калісьці іх было трое, тры браты. Старэйшы брат памёр ужо год дзесяць таму назад. Памёр старэйшы брат заўчаснай бясслаўнай смерцю: паймаў яго ляснік пана Чаплінскага з сухімі дровамі ў лесе, збіў да поўсмерці ды яшчэ назаўтра сам пан уласнай рукой усыпаў дваццаць пяць бізуноў. Захварэў Цімох, а праз некалькі дзён хавалі яго пад крывымі пыльнымі соснамі на вясковых могілках. Цяпер нават магіла тая зраўнялася з зямлёй.

Малодшы даўно згінуў невядома дзе. Яшчэ ў дзевятнаццатым годзе пайшоў з чырвонымі на ўсход, і з таго часу Піліп лічыў брата Міколу мёртвым.

Стаяў асенні, але цёплы вераснёўскі дзень. Піліп апрануў святочную світку і вышаў зранку на вуліцу. На вуліцы было людна. З усіх канцоў ішлі сяляне. Піліп пайшоў услед. Ён яшчэ добра нічога не ведаў, усе чутае здавалася занадта дзіўным. Няўжо праўда?... Няўжо праўда, што пана назусім прагналі, што зямля панская належыць цяпер народу? Спрадвечная баязлівасць перасцерагала ад смелых учынкаў. А раптам?

Але сяляне ішлі, суседзі ішлі, жанчыны ішлі. Піліп паволі рушыў усцяж вуліцы. Нехто крануў яго за плячо, Піліп здрыгануўся ад нечаканасці.

— Чаму так паціху ідзеш? Спознішся.

Гэта быў сын суседа Андрэй Крэпік. Ён усміхаўся. І ад гэтай бадзёрай усмешкі хлопца Піліп павесялеў. Ён хутка пайшоў услед за Андрэем.

У гэты дзень сялянскі камітэт прырэзаў Піліпу да яго дзесяціны яшчэ дзве дзесяціны былой панскай зямлі. Далі карову і подсвінка, бо раней, апрача хударлявай кабылы ў ягонай крытай небам гаспадаркі, нічога не было.

Увечары, замкнуўшы сяк-так сваю хату, Піліп першым чынам пайшоў у лазню. Старой сваёй ён загадаў зварыць вялікі гаршчок бульбы, набраць міску агуркоў і падаіць карову.

Прышоўшы з лазні, чысты і па-святочнаму светлы, разамлелы ад пары, ён сеў за стол. Бульба апетытна дымілася. За акном на вуліцы моладзь спявала новыя незнаёмыя, але блізкія сэрцу, песні. Было відна ў цёмнай, закапцелай ад лучын, хаце.

Старая паставіла на стол міску парнога малака. Піліп выпрастаў пагорбленую спіну, урачыста падняў міску над сталом:

— Ну, Хрысціна, пачынаецца наша новае жыццё. За здароўе...

І ён пачаў піць, доўга, прагна, захлынаючыся і дрыжучы ад задавальнення. Піў колькі хацеў, мо першы раз за ўсё жыццё.

І нечакана...

Піліп быў у хлеве. Ён толькі што падгроб параскіданую каровай салому, як пачуўся гудок машыны. Скрозь шчыліны ў варотах хлева быў відаць двор і кавалак вуліцы. Ён з цікавасцю прыпаў да шчыліны. Чыя-б гэта магла быць машына?

Аўтамабіль набліжаўся. І — сэрца захаланула — аўтамабіль спыніўся каля самай піліпавай хаты. Халодны пот выступіў на ілбе і ў вачах пацямнела. „Усё, усё скончылася... Відаць, адышлі чырвоныя і зноў вярнуліся палякі, паны. Гэта-ж толькі пан ездзіў тут на машыне. Цяпер вярнуўся пан і прыехаў патрабаваць у Піліпа назад усё: і зямлю, і карову, і парсюка. І яшчэ запатрабуе пан адказу за супроцьзаконныя учынкі".

Далей Піліп ужо нічога не бачыў. У галаве мільгнула думка: „Схавацца. Аддаліць момант адказу. А мо яшчэ наляцяць чырвоныя і прагоняць зноў гэты прывід праклятага мінулага."

Ён ускочыў на салому. Спрытна разграбаючы пахучую салому, ён зрабіў яму і нырнуў у яе. У апошні момант заўважыў толькі, як здзіўлена пазірае на яго карова, спалоханая яго тарапкімі падрыхтаваннямі.

На двары крычалі, гукалі. Было шумна.

— Піліп! Дзядзька Піліп! — чуваць быў нечы звонкі голас.

Але Піліп маўчаў.

Хрысціна штосьці гаварыла, тлумачыла прыехаўшым. Да тонкасці знаёмы голас жонкі дрыжэў. У інтанацыях жаночага голасу Піліп чуў сполах. Баючыся, што кожную мінуту могуць адчыніць хлеў і ўвайсці, Піліп нават не дыхаў громка.

Дзверы хлева сапраўды нехта адчыніў.

— Ды ён тут. Вось яго шапка і світка.

Піліпава сэрца закалацілася. Здрадніцкая саломінка ўлезла ў нос, і Піліп нечакана громка чыхнуў.

Разам закрычала некалькі чалавек, што ўдзельнічалі ў пошуках.

— Тут, тут. Спіць, чорт, на саломе і ў вус не дзьме. Хадзіце сюды.

Піліпу нічога не аставалася рабіць, як прыкінуўшыся сонным, пазяхаючы злезці з саломы.

Перад ім стаяў без шапкі Андрэй Крэпік. Андрэй махаў рукамі і кпліва пазіраў на піліпаву ўскудлачаную, усю ў саломе, бараду.

— Гэй, гаспадар! Паглядзі, які госць да цябе прыехаў.

Піліп са страхам зірнуў на падыходзіўшага прысадзістага, добра апранутага чалавека.

Вочы Піліпа раскрыліся шырока: у іх была і радасць, і надзвычайнае здзіўленне. Чалавек імкліва кінуўся да яго, абняў, пацалаваў:

— Даўно не бачыліся.

— Браток... Мікола...—шаптаў Піліп. — Ай, ай, вот не думаў. Заходзь, заходзь у хату. Братачка-ж ты мой. З таго свету ты, ці адкуль узяўся такі.

Піліп подбегам кінуўся з хлева.

Усадзіўшы брата за стол, Піліп вышаў у сенцы, пакінуўшы яго на папячэнне Хрысціны. Нечакана з'явілася непрыемная думка: калі Мікола пайшоў з вёскі, то не было зроблена ніякага раздзелу і яму, па сутнасці, належала палавіна гаспадаркі — і зямлі, і хаты, і маёмасці.

Піліп некалькі мінут стаяў ля сцяны, абмяркоўваючы становішча. „Вось чаго ён прыехаў. Эх, жыццё чортава... Прыдзецца аддаць палавіну, нічога не зробіш".

І пасля радасці сустрэчы ў піліпава сэрца ўпаўзла крыўда, нездавальненне.

Калі ён зайшоў назад у хату, Мікола гаварыў з Хрысцінай. Надварэ каля машыны нехта яшчэ завіхаўся. З галавы не выходзіла думка аб раздзеле. Спачатку хацеў адразу сказаць пра гэта Міколе, але перасіліў сябе.

— Дык як жывеш, браток?— спытаў ён у брата.

Мікола ў гэты час стаяў ля акна. Ён махнуў рукой стаяўшаму ля машыны чалавеку.

— Давай!—

Дзверы адчыніліся, і ў хату ўвайшоў малады хлопец. У руках у яго было шмат розных пакункаў. Піліп раскрыў рот.

Мікола ўсміхнуўся:

— Гэта Янка — мой сын. Трактарыст і часам уласны шофер старшыні калгаса, гэта значыць—мой.

Хлопец прывітаўся.

— Ого, якога сына выгадаваў,—з зайздрасцю ў голасе сказаў Піліп. — А я так і не прыстараўся сабе наследніка.

— Дрэнна,—паківаў галавой Мікола. — Слаба, браток, стараўся.

А Янка нёс і нёс. Ужо ўся лаўка каля стала была застаўлена пакункамі.

— Што гэта такое?—развёў рукамі Піліп.—Ці не краму ты збіраешся тут адчыніць?

— Гэта табе, Піліп, ад усёй нашай вялікай сям'і. Ад ста трыццаці калгаснікаў нашага калгаса „Ленінскі шлях".

І крыху пазней, калі ўжо была выпіта не адна чарка, калі Хрысціна змяніла на стале чацвертую страву, Піліп сказаў брату аб тым, што яго ўвесь час трывожыла. Мікола толькі засмяяўся.

— Нашто мне твая зямля, дурная ты галава, нашто мне твая гаспадарка, калі ў мяне гаспадарка большая, як некалі была ў пана Чаплінскага. У мяне вялікая дружная сям'я, зямлі — вокам не акінеш, нагамі не абойдзеш. А ты мне — думаў дзяліцца прыехаў! — На чорта мне твая зямля, твая гаспадарка. Вып'ем лепш яшчэ па адной за тое, каб і ў вас была з часам такая дружная багатая сям'я.

Піліп падняўся. Па бледным ягоным твары цяклі слезы. Ён абняў брата.

— Вып'ем за шчасце.

Быў ужо вечар. У канцы вёскі, вакол групы танкістаў, сабралася моладзь, і дзесяткі галасоў спявалі песню аб новай вялікай радзіме. У небе тлелі халодныя асеннія зоры.

Студзень, 1940 г.

